У ЦЕМРЫ ЧАС ЦЯГНЕЦЦА ІНАЧ.

БЕЗ ЦЕНЯЎ ЦІ СОНЕЧНАГА СВЯТЛА. БЕЗ ПОДЫХУ ВЕТРЫКА. БЕЗ БУДУЧЫНІ. БЕЗ ПРАВОЎ. ТУТ НЯМА НІЧОГА, АКРАМЯ ЎСПАМІНАЎ, ШТО СКЛАДАЮЦЬ ТАБЕ КАМПАНІЮ.

ЯНЫ РОБЯЦЬ МЯНЕ СЛАБАЙ, ЗЛОЙ, Я НАВАТ НЕ МАГУ НАРМАЛЬНА РАЗВА-ЖАЦЬ. КОЛЬКІ Я ЎЖО ТУТ ЗАЧЫНЕ-ТАЯ... ТЫДЗЕНЬ? МЕСЯЦ? Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ДЗЕ ЗНАХОДЖУСЯ.

А ЧАСАМІ Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ХТО Я ТАКАЯ...

АЛЕ ПОТЫМ ПРЫХОДЗІЦЬ ЁН, ЗРАБІЦЬ МНЕ БАЛЮЧА, І, БЫЦЦАМ ЛАВІНА, УСЁ НАПЛЫВАЕ НАНОВА.

МЯНЕ ЗАВУЦЬ
ХЭЦЦІ ХАРГРОЎВ.

НАРОДЖАНАЯ ХЭЦЦІ ХАЕК.
НАРАДЗІЛАСЯ Ў 1901 ГОДЗЕ Ў
ЧЫКАГА. СТАЛА ВАМПІРАМ У 1925
ГОДЗЕ Ў ЛАС-АНЖЭЛЕСЕ.

ЦЯПЕР Я НІХТО. НІДЗЕ.
УВЕСЬ ЧАС У ЧАКАННІ
ПЕРАНАРАДЖЭННЯ...

VERTIGO PRESENTS A SPARKLING COMIC REVUE

# «ВЫХАД»

**ЧАСТКА 1 (2)**


**СКОТ СНАЙДАР** - АЎТАР, **МЭЦЬЮ САНТАЛАЎКА** - МАСТАК
**ДЭЙВ МАККЕЙГ** - КАЛЯРОЎКА, **СЦІЎ ВЕНДС** - ШРЫФТЫ
ВОКЛАДКА **РАФАЭЛЯ АЛЬБУКЕРКЕ**
**МАРК ДОЙЛЬ** - РЭДАКТАР


АМЕРЫКАНСКІ ВАМПІР.
ІДЭЯ СКОТА СНАЙДАРА


Я НОВЫ ВАМПІР. КРУЦЕЙ... МАЦНЕЙ І ЦЯГАВІЦЕЙ, ЧЫМ СТАРЫ ВІД...
МІС ХАРГРОЎВ, ПРЫЙШОЎ ЧАС НАШАЙ ШТОМЕСЯЧНАЙ СУСТРЭЧЫ.


...НЕШТА ТАКОЕ. ТРУСЛІВЫ ВЫБЛЯДАК УТРЫМЛІВАЕ МЯНЕ ТУТ, У ЦЕМРЫ... НЕЗРАЗУМЕЛА ДЗЕ.
НА ЦЭПУ І ЗАЎСЁДЫ ГАЛОДНУЮ.


АЛЕ НАВАТ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ГЭТА, ЁН ПРЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ КАЛІ Я СЛАБАЯ. У БЯЗЛУННЫЯ НОЧЫ. КАЛІ Я НЕ МАГУ АДКАЗАЦЬ.


СЁННЯ ЎСЯГО ПЯЦЬ МАЛЕНЬКІХ УКОЛЬЧЫКАЎ, МІС ХАРГРОЎВ...


ПАЧНЕМ З ГАЛОЎНЫХ СУЛЬФАТАЎ, БАЧЫЦЕ? ДАЛЕЙ ГІПС, ЭПС І ГЭТАК ДАЛЕЙ.




СУПАКОЙСЯ. НЕ ВАРТА РАБІЦЬ ТАК, КАБ БОЛІ БЫЛО БОЛЬШ, ЧЫМ ПАТРЭБНА.









Эрроўхэд, Каліфорнія. Снежань, 1936 год.

ЧАС ТУТ ЦЯГНЕЦЦА ІНАЧАЙ, ЧЫМ У ГОРАДЗЕ.

РАНЕЙ, КАЛІ Я ЖЫЛА Ў ЛОС-АНЖЭЛЕСЕ, ЧАС ПАДЗЯЛЯЮСЯ ДЛЯ МЯНЕ НА КАРОТКІЯ АДРЭЗКІ.

...НА КОЛЬКІ ХВІЛІН Я СПАЗНІЛАСЯ НА ПРАЦУ. КОЛЬКІ ГАДЗІН ПРАВЯЛА ЗА ПРЫЛАЎКАМ.

АЛЕ ТУТ, З ГЕНРЫ, ЧАС ЛЯЦІЦЬ ТАК, ШТО Я НЕ ПАСПЯВАЮ ЗА ІМ.

БЫЦЦАМ Я МІРГНУЛА, А ПРАЛЯЦЕЎ ЦЭЛЫ ГОД.

ЧАСАМ МЯНЕ ГЭТА ПУЖАЕ, БО Ў ЯГО НЯМА СТОЛЬКІ ЧАСУ.

І Я ТУТ, ПРАШУ ПРАВОДЗІЦЬ СА МНОЙ ТЫЯ ДРАБКІ, ШТО ЯМУ ВЫЛУЧАНЫ, УДАЛЕЧЫНІ АД ЛЮДЗЕЙ, УДАЛЕЧЫНІ АД ЖЫЦЦЯ, ХАВАЮЧЫСЯ...

КУ-КУ.


НЯДАЎНА, КАЛІ Я БЫЛА Ў ГОРАДЗЕ, Я РАЗМАЎЛЯЛА З ШАРПАМ ДЭЛІ.
ХММ-УГМ.
А ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ЯКІ ШАРП ВЯЛІКІ ПРЫХІЛЬНІК ДЖАЗУ.


У МЯНЕ ДАГЭТУЛЬ ЗАХАВАЛІСЯ ДВА ЯГО ЗАПІСЫ.
ЁН ПРАСІЎ МЯНЕ, ПЕРАДАЦЬ ТАБЕ, ШТО НІЖЭЙ ПА ДАРОЗЕ АДЧЫНЯЕЦЦА НОВАЕ МЯСТЭЧКА, КАРЧМА МУНРО.


ШАРП КАЗАЎ, ШТО ЯЕ АДЧЫНІЎ НЕЙКІ ХЛОПЕЦ З КАНЗАСУ, ПА ІМЕНІ ЦІ ТО ЛІТТЛ ФУТ, ЦІ ТО ЛІТТЛ ФІТ.
ЛІТТЛ ФІТ БІЛ, БУТЛЕГЕР?


ВІДАЦЬ, ШТО ГЭТА САПРАЎДЫ ГОДНАЕ МЕСЦА. УВЕЧАРЫ ЯНЫ ЗАПУСКАЮЦЬ УСІХ, ХТО ХОЧА ЗАЙСЦІ.
МЯСЦОВЫХ МУЗЫКАЎ. ТЫ МОГ БЫ ПРЫНЕСЦІ СВАЮ ГІТАРУ.


ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ЯК Я ЛЮБЛЮ ГЛЯДЗЕЦЬ, ЯК ТЫ ГРАЕШ.
ТАДЫ, ЛІЧУ, Я ПАВІНЕН ЗДЗЬМУХНУЦЬ ПЫЛ СА СВАЁЙ БАБУЛЬКІ...
ПРЫДАЦЬ ЁЙ ГУЧАННЕ.


І ЛЕПШ Б БЫЛО, МІСТАР, КАЛІ ВЫ ГАВОРЫЦЕ ПРА ГІТАРУ.


ЧАСАМ НОЧЧУ Я ГЛЯДЖУ, ЯК ГЕНРЫ СПІЦЬ.
ЦІ, ДАКЛАДНЕЙ, СПРАБУЕ ЗАСНУЦЬ. ЯГО ЗАЎСЁДЫ МУЧАЦЬ КАШМАРЫ. ЯГО ЎСЯГО ТРАСЕ.
ЁН КАЖА, ШТО СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО ЯМУ СНІЦЦА, І ШТО Я НЕ ЗМАГУ ГЭТАГА ЗРАЗУМЕЦЬ...
ДАВАЙ, ЗРАБІ ГЭТА.
...НАВАТ КАЛІ Я ПРЫКЛАДАЮ ВУХА ДА ЯГО ВУСНАЎ...
НАВАТ ПАСЛЯ ТАГО, ПРАЗ ШТО МЫ ПРАЙШЛІ, МЯНЕ НЕПАКОІЦЬ ТОЕ, ШТО ЯГО ПУЖАЕ.

ЦІ НАПУЖАНЫ ЁН ТЫМ ЖА, ЧАГО БАЮСЯ Я? ЦІ НАПУЖАНЫ СТАЛЫМ УНУТРАНЫМ НАПРУЖАННЕМ, ЯКОЕ НАГАНЯЕ **ЦЁМНЫ** СПАДАРОЖНІК?

ЦІ ПУЖАЕ ЯГО **БУДУЧЫНЯ** ТАК ЖА, ЯК І МЯНЕ?

ЧАСАМ, КАЛІ Я СЛУХАЮ НАШЫ СЭРЦЫ... ГЭТА НАВОДЗІЦЬ НА МЯНЕ ЖАХ.

ЯГО СЭРЦА... ЯНО Б'ЕЦЦА КОЖНУЮ СЕКУНДУ КОЖНАГА ДНЯ. ТАК ХУТКА, У ПАРАЎНАННІ З **МАІМ**.

БО МАЁ СЭРЦА **ІНШАЕ**. ЯНО Б'ЕЦЦА НЕ ЧАСЦЕЙ, ЧЫМ РАЗ У ХВІЛІНУ. БЫЦЦАМ НІЗКІ, МОЦНЫ ШТУРШОК У МАЁЙ ГРУДЗІ.

ГЕНРЫ ЛЮБІЦЬ ЖАРТАВАЦЬ, ШТО ЯГО СЭРЦА ЎЖО БЫЛО Ў КАРЫСТАННІ. А ПА МАЙМУ МОЖНА НАВОДЗІЦЬ ГАДЗІННІКІ.

ВОСЬ ГЭТА І ПРЫМУШАЕ МЯНЕ ДРЫЖАЦЬ. ГЭТА ПРЫНОСІЦЬ МНЕ НАЧНЫЯ КАШМАРЫ. БУДУЧЫНЯ БЕЗ ЯГО.

Я ЗАЎСЁДЫ БАЮСЯ ТАГО, ШТО МАГУ ЗРАБІЦЬ.

Я ХАЧУ НАДРЭЗАЦЬ СВОЙ ПАЛЕЦ І ПАДНЕСЦІ ДА ЯГО РТА. АЛЕ Я НЕ МАГУ З ІМ ТАК ЗРАБІЦЬ. Я НЕ МАГУ АБЯРНУЦЬ ЯГО Ў ТОЕ, ЧЫМ СТАЛА САМА.

МЯНЕ ЗАВУЦЬ **ПЁРЛ ПРЭСТАН**, І Я **АМЕРЫКАНСКІ ВАМПІР**.


СЁННЯ МЫ СВЯТКУЕМ. НІЯКІХ ТЭСТАЎ, НІЯКІХ УКОЛАЎ. ГЭТА Ж НОВЫ ГОД!
ЧАСАМ, БЫВАЕ, ЁН ПРЫХОДЗІЦЬ СЮДЫ ТАКІ ЗАСМУЧАНЫ, АДЗІНОКІ І ЖАЛАСНЫ.


ЁН ВЫХОДЗІЦЬ І П'Е ЯКОГА-НЕБУДЗЬ П'ЯНІЦУ... ТОЛЬКІ ТАК НАШ ВІД МОЖА АДЧУЦЬ АП'ЯНЕННЕ.
БАЧЫШ ГЭТА? ГЭТА ТОЕ, ШТО Я НЕ ЎГЛЕДЗІЎ. НЕ ЭФЕКТ, А ДОСВЕД.


СМАК І СТРУКТУРА. ПАВОЛЬНА СЦЯКАЕ ПА СЦЕНКАХ СТРАЎНІКА.
І ЎСЁ, ШТО ЁН РОБІЦЬ, – ГЭТА БАЛБЫТАЕ, БАЛБЫТАЕ І БАЛБЫТАЕ.
СПАЧАТКУ Я ГЭТА НЕНАВІДЗЕЛА. АЛЕ ПОТЫМ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО СЛУХАЮЧЫ, Я МАГУ ЧАМУСЬЦІ НАВУЧЫЦЦА.


ТАДЫ СЁННЯ. СЁННЯ Я ПАДМА-НУ САМОГА СЯБЕ. УСЯГО РАЗ.
У БОЛЬШАСЦІ ВЫПАДКАЎ Я ДАВЕДВАЮСЯ ШТОСЬЦІ ПРА ЯГО. АЛЕ ЧАСАМ... І ПРА СЯБЕ.


НАПРЫКЛАД, КАЛІ ЁН ВОСЬ ТАК ПРЫХОДЗІЎ У МІНУЛЫ РАЗ, Я ДАВЕДАЛАСЯ, ШТО ЯГО ГАСПАДАРЫ ВЫЦЯГНУЛІ МЯНЕ З МОРГА.


БЛУАГХ!
АЛЕ, НАЖАЛЬ ДЛЯ МАЁЙ СТАРОЙ СЯБРОЎКІ ПЕРЛ, Я ЎЖО ПЕРАВЯРНУЛАСЯ І ВАЙШЛА Ў КАСТУ, ПРАСЦЕЙ КАЖУЧЫ... СТАЛА **МЁРТВАЙ**.


СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО Ў ВАМПІРАЎ ЁСЦЬ СВАЕ АСАБЛІВАСЦІ. КАБ ПА-САПРАЎДНАМУ ПРЫНЕСЦІ НАМ КАН-ЧАТКОВУЮ СМЕРЦЬ, ТРЭБА РАЗНЕСЦІ ГАЛАВУ ЦІ СЭРЦА.
ЦАЛКАМ, ПЕРЛІ, ЦАЛКАМ...

ІНАЧ ЁСЦЬ ВЕРАГОДНАСЦІ, ШТО ВЫ ІХ ТОЛЬКІ РАЗЗЛУЕЦЕ.

Я... ПРАБАЧЦЕ, МІС ХАРГРОЎВ. Я НА СЕКУНДУ СТРАЦІЎ КАНТРОЛЬ...

Я ВЫРАС У РЭЙМСЕ...

КАЛЯ ПІЦЕЙНЫХ УСТАНОЎ, Я ВЕДАЮ.

НУ ТАК, МЯРКУЮ, УСЕ МЫ МАЕМ СВАЕ СЛАБАСЦІ. ВЫ Ж ПРАБАЧЫЦЕ МЯНЕ, ЦІ НЕ ТАК? У ГОНАР ДУХА НОВАГА ГОДА?

КАНЕШ-НЕ, КА-НЕШНЕ.

ДЗЯКУЙ, МІС ХАРГРОЎВ, ДЗЯКУЙ.

НЕ, ДОК...

...ТАБЕ ДЗЯКУЙ.

НА СЦЭНЕ ЧАС
ЦЯГНЕЦЦА ІНАЧ.

ВЫХАД

ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ЦЯПЕРАШНЯЕ
ІМГНЕННЕ І МУЗЫКА, ШТО
НЯСЕ ВАС НА СВАІХ ХВАЛЯХ.

КІМ БЫ ВЫ НІ БЫЛІ РАНЕЙ
І КУДЫ Б НІ НАКІРОЎВАЛІСЯ...
ТУТ ГЭТА НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЕ.

ВОСЬ ЧАМУ Я СТАЎ
ГРАЦЬ: КАБ ЗАБЫЦ-
ЦА, АДМОВІЦЦА АД УСІХ
ЗДАНЯЎ МІНУЎШЧЫНЫ.

З ЁЙ... ЧАСАМ ТАКОЕ
ПАЧУЦЦЁ, ШТО ЁСЦЬ
ТОЛЬКІ ЗАРАЗ І НІЧОГА
ІНШАГА. І Я ШЧАСЛІВЫ.

ЯК СЁННЯШНІ ВЕЧАР... СЭРЦА ГРУКАЕ ХУТЧЭЙ, РАЗГАНЯЮЧЫ КРОЎ. ТАКІЯ ЛЮДЗІ, ЯК ЛІТТЛ ФІТ БІЛ, ШТО СЯДЗЯЦЬ У КУЦЕ, ЗАНАДТА ДЗІКІЯ, КАБ ТАК ПРОСТА ПАМЕРЦІ.
АЛЕ ЛЮБАЯ ПЕСНЯ МАЕ СВОЙ КАНЕЦ, ЦІ НЕ ТАК? СТАРЫ ФАНОГРАФ ЗАПАВОЛЬВАЕЦЦА І СПЫНЯЕЦЦА.
МЫ З ЁЙ ТУРБУЕМСЯ З-ЗА РОЗНЫХ РЭЧАЎ. ЧАСАМ, У АСАБЛІВЫЯ МОМАНТЫ, Я АЗІРАЮСЯ НА ЯЕ І БАЧУ ЎВЕСЬ ГЭТЫ СТРАХ У ЯЕ ВАЧАХ.
ХАЦЕЛАСЯ Б, КАБ ГЭТЫ СТРАХ БЫЎ ВЫКЛІКАНЫ ТЫМ, ШТО Я ДУМАЮ... МОНСТРАМІ, ШТО МОГУЦЬ З'ЯВІЦЦА Ў ЛЮБУЮ ХВІЛІНУ І ПАЧАЦЬ ПАЛЯВАННЕ НА ЯЕ.
Я ДУМАЮ ТАК І ЧАСАМ ХАЧУ, КАБ ЯНА ЗРАБІЛА ГЭТА. ДАЛА СВАЁЙ КРЫВІ, КАБ Я ЗМОГ ЗМАГАЦЦА НА ЯЕ БАКУ.
АЛЕ ПОТЫМ СТРАХ ПРАХОДЗІЦЬ. І МЫ ЗНОЎ СТАНОВІМСЯ ПЕРЛ І ГЕНРЫ. ЗВЫЧАЙНЫМІ ЛЮДЗЬМІ.
І ЎСЁ Ж ТАКІ, УЛІЧВАЮЧЫ МІНУЛАЕ, ТАКІ ВЫХАД НЕЛЬГА ВЫКЛЮЧАЦЬ...


...АСАБЛІВА, КАЛІ ЯНО НАСТАЕ НА ПЯТКІ.
Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, МІС ХАРГРОЎВ, АЛЕ СЁННЯ МЫ ПРАЦУЕМ З АСНОЎНЫМІ ХЛАРЫДАМІ.


І, ДА НЯШЧАСЦЯ, ЯНЫ МАЮЦЬ ПРАЦЯГЛЫ ЭФЕКТ.


ВАС НІХТО НЕ ПАПЯРЭДЗІЎ? БАЮСЯ, ЭКСПЕРЫМЕНТ СЁННЯ НЕ АТРЫМАЕЦЦА.


ЧАМУ ТАК?


ДЫК, НЕШТА ЗДАРЫЛАСЯ.
І МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЎЙСЦІ.


АБ ЧЫМ ВЫ...

ААЙЙ!

СССССССССССССССССССССС

НЕЯК ВЫ КАЗАЛІ, ШТО НАРАДЗІЛІСЯ ВА ФРАНЦЫІ, КРАІНЫ ШАМПАНСКАГА І ІНШАГА ЛАЙНА.

ПАЦЕШНА, БО Я З ЧЫКАГА, ЗЯМЛІ, ДЗЕ ДА СРАЦЫ ТАКОГА ЛАЙНА.

ЧЫРВОНАГА МЯСА, ВЕЛАСІПЕДАЎ. О, І ЯШЧЭ АДНОЙ РЭЧЫ, ШТО БЫЛА КАЛЯ ДОМА, ДЗЕ Я ВЫРАСЛА...

ФАБРЫКІ ПА ВЫТВОРЧАСЦІ ВЕЧАК. ДЛЯ ГАЗІРОЎКІ, ПІВА, МЕДПРЭПАРАТАЎ. ЦІ БАЧЫЦЕ, ВЕЧКІ ГЭТЫЯ РОБЯЦЬ СА СПРЭСАВАНАЙ ГАБЛЮШКІ.

З ДРЭВА, ІНШЫМІ СЛОВАМІ.

ПРАШУ, НЕ...

О, НЕ ХВАЛЮЙ-ЦЕСЯ, ДОК...

«Усяго толькі адзін **укольчык**».
Я думаў, што ведаю цябе. Божа, сябар, дзе ты прападаў?
З якім цыркам вандруеш? Я б прыйшоў на выступленне.
Дзякуй, але я з гэтым завязаў, прыяцель.
Што ж, тады ў іншы раз. Я, бывае, граю тут у карты, прыходзь, як будзе час.
А ёсць яшчэ порах, прыя-цель, так?


ЧУЛА? У ТВАІМ СТАРЫКУ ЁСЦЬ ЯШЧЭ АГЕНЬЧЫК.


ПАГЛЯДЗІ НА НАС, БЫЦЦАМ МЫ ЗНОЎ МАЛАДЫЯ.
ГЭЙ.


ДЗЯКУЙ НЕ ТОЛЬКІ ЗА СЁННЯ. А НАОГУЛ.


МММ. НАМ ВАРТА ЧАСЦЕЙ ВЫБІРАЦЦА.


Я ТОЛЬКІ ШТО ПРА ГЭТА ПАДУМАЎ. МА-БЫЦЬ, Я НАВАТ ПРЫМУ ПАРУ ПРАПАНОЎ.

Я ЧАКАЛА СВІТАННЯ, КАБ ВЫБРАЦЦА. АПОШНЯЯ НОЧ З МАІМ ПРЫЯЦЕЛЕМ ДОБРЫМ ДОКТАРАМ. ПАГУТАРЫЛІ, КАБ ПАСКОРЫЦЬ ЧАС.
ДА НЯШЧАСЦЯ, ЁН ПОМЕР РАНЕЙ, ЧЫМ Я ЗМАГЛА БОЛЬШ ШЧЫЛЬНА АПЫТАЦЬ ЯГО ПРА ТОЕ, ШТО ЧАКАЕ МЯНЕ НАВЕРСЕ.
ТАМУ Я І ЧАКАЛА ТАГО МОМАНТУ, КАЛІ БУДУ ГАТОВА.
ГАТОВА ДА ЧАГО ЗАЎГОДНА...
НУ ДОБРА, ВЫБЛЯДКІ, РЫХТУЙЦЕСЯ...










У НАС З ТАБОЙ... ШТО Ж, НАМ ЁСЦЬ АБ ЧЫМ ПАГАВАРЫЦЬ. НЕ ХВАЛЮЙСЯ, Я ІДУ.

Я ІДУ, МІЛАЯ.

...ХУТКА ТЫ ПАЧУЕШ ГРУК У СВАЕ ДЗВЕРЫ.

НОК НОК

ЛІТТЛ ФІТ? ТЫ...

...ТУТ?

БОЖА.




ВЫБІРАЙСЯ АДСЮЛЬ, ГЕНРЫ! **БЯЖЫ!**

ВЫ НЕ МОЖА-
ЦЕ ЎЙСЦІ ЗАРАЗ.
СПАЧАТКУ ТРЭБА
ПАГУЛЯЦЬ.

ТАК,
**ВЕЧАРЫНА** ТОЛЬКІ
ПАЧАЛАСЯ.











Працяг
будзе...